www.nv-online.info

№ 5 (4052)

19 студзеня 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На простор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

*Вы рэгулярна чытаеце «Народную Волю» і хочаце сагітаваць у шэрагі прыхільнікаў газеты свайго сябра, родзіча, саслужыўца? Тады дапамажыце ім аформіць падпіску. Зробіце гэта да 27 студзеня – і яны ўжо з 1 лютага будуць атрымліваць “Народную Волю”.*

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



Борис ЖЕЛИБА,
профессор, доктор экономических наук

# ...Только не трогайте детей!

Суровое начало года: мировые цены на нефть уже просели ниже 30 долларов за баррель, курс белорусского рубля пробил в «обменниках» барьер в 20.000 национальных денежных единиц, а курс российского – 75 национальных денежных единиц. В то же время с кредитами МВФ и Евразийского банка ничего не понятно. Все это, полагаю, ввергло в панику не только правительство, но и главу государства и его администрацию. Надо срочно пересчитывать все социально-экономические прогнозы на текущий год и спасать социально ориентированный бюджет, в котором государственные расходы занимают добрую половину. В первую очередь следует искать дополнительные источники поступлений в худеющую казну.

Собственно, этим уже давно озабочены провластные аналитики, которые выдвигают различные идеи и предложения, а в качестве, как говорят, пробного шара дают их озвучить высоким чиновникам или «палатникам». Отдельные соображения таких аналитиков озвучивает и сам глава государства. Помните слова насчет 100 долларов пошлины со всех выезжающих на закупы за границу? Правда, на тот момент решили данное «изобретение» отложить. Очень уж много было возмущений народа, особенно в интернете.

Но недавно экс-министр труда Морова назвала трехлетний отпуск по уходу за ребенком «расточительством». Чуть позже помощник президента Рудый подвел под это соображение научную основу. Он подсчитал с точностью до одной десятой, что вливание в трудовые ряды «высвободившихся» матерей позволит обеспечить рост экономики на 2,3%. При этом нашел страны, где срок по уходу за ребенком еще меньше. Стало быть, если этот отпуск сократить еще до года (до окончания периода грудного вскармливания), то, пользуясь научным методом экстраполирования, можно установить, что наш ВВП вырастет в таком случае уже на 4,6%. И кризис как рукой снимет! Только где и кому этот прирост мы будем реализовывать?

Зачем же трогать малых и грудных детей? Ведь можно подумать и предложить иные источники повышения доходов в бюджет. Есть правильное выражение из высказываний Лукашенко: «снять жирок». И чтобы не изобретать велосипед, обратимся к известным в других странах способам пополнения государственной казны. Предлагаю:

– ввести налог на роскошь, имеются в виду дорогущие иномарки, драгоценности, загородные поместья помимо жилья в городе и т.д. Стоимостные критерии разработать несложно. Для чего ввести обязательное и публичное декларирование доходов и имущества высшими чиновниками и парламентариями;

– вернуться к прогрессивной шкале подоходного налога. И сделать верхнюю ставку налога процентов 40–45, чтобы «снять жирок» и со среднего класса (по белорусским меркам);

– увеличить возраст выхода на пенсию военным, милиции и прочим силовикам как минимум на 5 лет. А то как-то неудобно, когда полные сил 45–50-летние мужчины пополняют ряды пенсионеров. Мне думается, что многие из них будут совсем не против послужить еще;

– глубоко дифференцировать плату за жилье. Как известно, живущие в коттеджах и в «панельках», например, платят за «квадраты» практически одинаково;

– резко увеличить размер акцизного налога на «злачную» продукцию – водку, сигареты и т.д. Как известно, Беларусь занимает первые места в мире по потреблению алкоголя на душу населения, народ спивается;

– существенно поднять цены на моторное топливо (также за счет акциза). Автомобилисты как средний класс народ не бедный. Правильно сказал президент: на дорогах в бедной Беларуси не протолкнуться;

– вернуться к идее обложения пошлиной выезжающих за кордон на шоппинг. Толпами белорусы вывозят из Литвы и Польши все – от макарон, колбасы, стирального порошка до мобильников, компьютеров. Тем самым вывозятся из страны за год миллиарды единиц валюты;

– сократить количество министерств (упразднить, к примеру, Министерство торговли, Министерство информации и другие);

– оптимизировать число чиновников наполовину;

– оптимизировать силовые структуры;

– сократить пособия госслужащим при выходе их на пенсию («золотые парашюты»).

Естественно, этот перечень еще можно продолжить. Но надо исходить из того, что взять что-либо существенное с «неприкорытного» населения уже практически невозможно. Оно с некоторых пор сидит у разбитого корыта. Тем более совсем цинично трогать его малых детей. А то наше государство совсем стало социально дезориентированным. Выхолащиваются последние социальные остатки его содержания.

КА-РА-ВУЛ!

## Рэкорд за рэкордам

Учора курс продажу долара ў банках дасягнуў 20.800 рублёў. Яшчэ тыдзень таму амерыканскую валюту можна было набыць за 19.400, і гэта ўжо быў значны абвал рубля.

Што звяртае ўвагу: вялікая розніца афіцыйнага курса і камерцыйнага. Каб не дапусціць панікі і спекуляцый, Нацбанк рэкамендаваў камерцыйным банкам прытрымлівацца афіцыйнага курса рубля і моцна ад яго не адхіляцца. Але ці дапаможа адміністрацыйны рэсурс? Хутчэй адсутнасць рублёў на фоне маленькіх заробкаў стрымлівае беларусаў ад скупкі валюты, лічаць эксперты.

ВЕДАЙ НАШЫХ!

## Ганна Стральцова прызнана лепшай вадналыжніцай свету

– *Мінулы год быў паспяховы для маёй кар'еры,* – сказала «Народнай Волі» маладая спартсменка. – *Нягледзячы на вынікі і прызнанне, на зорную хваробу не пакутую. Усё па-ранейшаму – у гэтым годзе заканчваю Полацкі ўніверсітэт, працягваю трэніравацца.*

На спаборніцтвах у Іспаніі ў мінулым годзе беларуская вадналыжніца заваявала залаты медаль у скачках з трампліна і сярэбраны ў мнагаборʼі. Высокіх вынікаў Ганна Стральцова змагла дамагчыся, нягледзячы на атрыманую траўму нагі. Навапалацкай спартсменцы была зроблена аперацыя ў Германіі.

**Раман ВАСЮКОВІЧ.**

ЧУЛІ?

## У Мінск можа прыехаць «сапраўдны Кінг-Конг»

Кубінскі баксёр **Луіс Орціс** сустрэнецца з беларусам **Аляксандрам Усцінавым** да 19 чэрвеня.

– Мы толькі пачалі падрыхтоўку да бою з Орцісам, – распавядае трэнер баксёра **Уладзімір ЗАДЗІРАН**. Ідуць перамовы з нагоды правядзення матча.

**– Як ацэньваеце шанцы Усцінава?**

– Кубінец, якога яшчэ называюць “сапраўдны Кінг-Конг”, правёў на прафесійным рынгу 26 паядынкаў і ні разу не прайграў. Да гэтага Луіс Орціс правёў каля 350 баёў на аматарскім рынгу. Што тут казаць? Сапернік сур'ёзны.

**– Матч пройдзе на “Мінск-Арэне”?**

– Не абавязкова. Я пакуль не пачуў прапаноў ні ад спонсараў, ні ад урада, ні ад федэрацыі з нагоды таго, каб яны захацелі гэтага. Дата і месца правядзння матча будзе ўзгадняцца пазней.

**Алесь СІВЫ.**

СОРАМ!



# На акладзе ў дзяржавы

Так, Беларускі саюз моладзі – гэта той жа камсамол, які ў Беларусі ў савецкія часы меў абрэвіятуру ЛКСМБ. А таму БРСМ як пераемнік Ленінскага камуністычнага саюза моладзі і адлік свой бярэ ад даты нараджэння апошняга.

Здавалася б, як любая іншая грамадская арганізацыя, БРСМ павінен існаваць за кошт уласных сродкаў, у крайнім выпадку – пры дапамозе спонсараў. Але не сядзець на карку ў падаткаплацельшчыкаў: улады, якія размяркоўваюць бюджэтныя грошы, самі іх, вядома ж, не зарабляюць.

І вось абуральны факт – Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі працягне атрымліваць бюджэтнае фінансаванне не толькі ў гэтым, але і ў 2017 годзе. Гэта вынікае з указа А.Лукашэнкі №6 ад 13 студзеня, тэкст якога апублікаваны на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале. Прычым вельмі паказальна тое, што канкрэтныя сумы і канкрэтныя напрамкі фінансавання ў тэксце ўказа засакрэчаны і таму не абнародаваны.

І ўсё ж без вялікіх цяжкасцяў на тым жа Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале Рэспублікі Беларусь нам удалося знайсці падрабязную інфармацыю пра дзяржбюджэт 2016 года. Дык вось насупраць радка «Общественное объединение «Белорусский республиканский союз молодежи» стаіць шматзначная лічба – 62.467.678,0. Можаце ўявіць: у краіне крызіс, падаюць заробкі людзей на заводах і фабрыках, у былых калгасах і саўгасах, не хапае сродкаў на выплату пенсій, а тут на падкормку маладых, здаровых хлопцаў і дзяўчат – больш за 62 мільярды рублёў. І сораму ў іх няма вымольваць такія грошы! І за што?!

Нагадаем, што БРСМ быў створаны ў верасні 2002 года шляхам аб'яднання дзвюх найбуйнейшых маладзёжных арганізацый Беларусі – Беларускага патрыятычнага саюза моладзі і Беларускага саюза моладзі. На аб'яднальным з'ездзе Аляксандр Лукашэнка заявіў, што арганізацыя павінна стаць магутным рэзервам кадраў для ўсёй дзяржаўнай сістэмы. Тады ж, паабяцаўшы падтрымку на першым часе, ён паставіў перад дэлегатамі з'езда задачу: на працягу трох гадоў перайсці на самафінансаванне.

Ужо, дзякуй Богу, не тры, а 13 гадоў прайшло з тых часоў, а бюджэтнае фінансаванне БРСМ не спыняецца. Прычым грошы выдзяляюцца як з дзяржаўнага, так і з мясцовых бюджэтаў. Такім чынам БРСМ аказаўся проста “на акладзе” ў дзяржавы.

А ЯК У ІХ?

У большасці развітых краін у чыстым выглядзе “кармушак” для кішэнных структур няма. Традыцыйная схема ўзаемадзеяння дзяржавы і недзяржаўнага сектара такая: ствараюцца незалежныя ад улады спецыяльныя фонды, у якія паступаюць грошы на развіццё НДА.

Далей ужо гэтыя фонды прымаюць заяўкі на гранты ад самых розных грамадскіх арганізацый і на конкурснай аснове адбіраюць найлепшыя, самыя цікавыя, самыя важныя праекты для фінансавання. У выніку – усе НДА аказваюцца ў роўных умовах. Усе вымушаны варушыцца, выдумляць, канкурыраваць, даказваць свае права на існаванне. А ў нас фінансаванне недзяржаўнага сектара – гэта фінансаванне па прынцыпе адданасці дзеючай уладзе. Пра змену гэтай схемы, якая не дае развівацца грамадзянскай супольнасці ў Беларусі, пакуль нават не ідзе размова.

**Алена НОВІКАВА.**

РЭПАРТАЖ З ПЛОШЧЫ

# Дзе вы, прадпрымальнікі?

Учора на сталічную плошчу Незалежнасці падтрымаць прадпрымальнікаў не прыйшло і паўсотні чалавек. Журналістаў разам з супрацоўнікамі міліцыі было больш, чым удзельнікаў акцыі. Чаму так адбылося? Дзе тыя прадпрымальнікі, якія казалі, што дайшлі да апошняй кроплі адчаю? Пытаюся ў жанчыны, якая назвалася **Таццянай.** Яна адказвае:

– *Людзі ўжо папросту не вераць, што нешта яшчэ можна зрабіць. Я сюды прыехала з Гродна. Напярэдадні ў “Одноклассниках” напісала пра акцыю і пра тое, што паеду ў Мінск. Мне паставілі “класс” сотні чалавек, прычым менавіта прадпрымальнікаў! У каментарыях напісалі, што таксама абавязкова паедуць... І што мы тут бачым? Крыўдна да слёз! Прыйшлі вось некаторыя палітыкі-апазіцыянеры, а самі прадпрымальнікі дзе? Хто, як не мы, самі павінны змагацца?*



...Лідар віцебскіх прадпрымальнікаў **Ірына ЯСКЕВІЧ** і старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі **Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА** трымаюць плакат “*Я – ІП*”. Нягледзячы на тое, што супрацоўнікі міліцыі склалі супраць палітыка пратакол за арганізацыю несанкцыянаванага мерапрыемства, Лябедзька бярэ мегафон і звяртаецца да прысутных: “*Насамрэч цяпер адбываецца не нейкі лакальны канфлікт паміж індывідуальнымі прадпрымальнікамі і ўладай, а сур'ёзны эканамічны крызіс. Прадпрымальнікі трапілі ў такую сітуацыю дзякуючы тупіковым дзеянням эканамічных улад у краіне*”.

Пакуль Анатоль Лябедзька выступаў перад прысутнымі, міліцыянеры складалі пратаколы супраць іншых удзельнікаў акцыі. **Наталля МАЁРАВА** прыцягнула іх увагу раздачай буклетаў. З яе ўзялі тлумачэнні, але не змаглі даць уцямны адказ, па якім артыкуле будуць складаць пратакол. Запэўнілі, што скажуць пра гэта пазней. Пратакол склалі і на **Ніну БАГІНСКУЮ**, якая ўзняла на плошчы бел-чырвона-белы сцяг. Усіх прысутных здымалі на відэа. “Пад раздачу” патрапіў малады мужчына, які трымаў плакат: “Хопіць маўчаць! Лукашэнка – ганьба Беларусі”.

Праз паўгадзіны ўсе прысутныя на чале з Анатолем Лябедзькам і Ірынай Яскевіч пайшлі да Дома ўрада. Палітыкі перадалі звароты з прапановамі аб вырашэнні праблем малога бізнесу. У прыватнасці, перадаць ва ўласнасць прадпрымальнікам гандлёвыя плошчы, якія арандуюцца імі ў дзяржавы або мясцовых улад больш як тры гады. Да таго ж прапануецца ўвесці гадавы патэнт на ажыццяўленне прадпрымальніцкай дзейнасці, правесці амністыю капіталу для ўсіх грамадзян Беларусі да 1 студзеня 2019 года і шэраг іншых прапаноў. Яшчэ адзін зварот пададзены ад імя віцебскіх прадпрымальнікаў. Ірына Яскевіч патлумачыла, што ў Віцебску прадпрымальнікі не могуць нават закрыцца без фінансавых страт. Яны вымушаны выплачваць штрафы нароўні з юрыдычнымі асобамі.

**Любоў ЛУНЁВА.**

ПОЗДРАВЛЯЕМ!

## Еще долгих лет вам, Владимир Васильевич!

Заслуженный деятель науки Республики Беларусь, доктор медицинских наук, профессор, автор «Народной Воли» **Владимир Васильевич Горбачев** на днях отметил 90-летний юбилей!

Необыкновенной щедрости и души человек, оптимист, трудоголик. Его жизнь так насыщена событиями, что и на десятерых хватит. Когда Володе Горбачеву исполнилось пятнадцать, началась Великая Отечественная война. Как и многие подростки, он рвался на фронт бить врага, но юный возраст не позволил стать бойцом Красной Армии. Горбачев пошел в партизаны… Он чудом выжил во время прорыва уже ставшей исторической Ушачской блокады в 1944 году, но попал в немецкий плен. Суровые испытания закалили Владимира Горбачева. Не сдаваться, не падать духом, идти вперед, веря в завтрашний день, – вот его жизненный принцип.

После войны Владимир Горбачев окончил среднюю школу в г.Лепеле и поступил в Витебский медицинский институт, который закончил в 1952 году. В 1961 году



Владимир Васильевич защитил кандидатскую диссертацию, а через восемь (!) лет – докторскую. Кардиология стала сферой его профессиональной деятельности.

Владимир Горбачев – автор более 250 научных работ, в том числе монографий. Им подготовлен не один учебник для студентов-медиков и не один справочник для врачей. Горбачев взрастил 7 докторов и 12 кандидатов медицинских наук.

Доктор медицинских наук, профессор кафедры кардиологии и ревматологии БелМАПО **Тамара Тябут** с удовольствием поздравляет своего учителя с юбилеем:

– *Говорить о таких людях, как Владимир Васильевич, очень просто и очень сложно. Для меня он в первую очередь Учитель. Учитель в науке, учитель в кардиологии, учитель в жизни. Счастливы те люди, в жизни которых есть такие учителя, как Владимир Васильевич.*

*Как-то мы, его ученики, попытались сосчитать всех аспирантов, ординаторов, соискателей, к которым “приложил руку” Владимир Васильевич. Получилась добрая сотня человек, все они желают ему долгих лет жизни, сохранения бодрости духа! Это человек, у которого стоит поучиться еще одному качеству – интеллигентности, способности выслушать, понять и помочь.*

*Владимир Васильевич Горбачев стоял у истоков белорусской кардиологии с еще одним великим ученым – Георгием Ивановичем Сидоренко. Только последние пять лет Владимир Васильевич не работает по профессии. Но почти на всех праздниках он с нами, мы к нему заезжаем, он навечно зачислен в списки сотрудников кафедры. Да это и понятно: кафедра кардиологии БелМАПО создавалась и долгие годы жила под его руководством. С кафедры вышли многие известные медики страны – профессора Григорий Вечерский, Иван Броновец, Владимир Сытый, Андрей Пристром, академик Александр Мрочек и ряд других уважаемых людей.*

*Долгих лет Вам, Владимир Васильевич!*

**Мария ЭЙСМОНТ.**

**P.S. Редакция газеты «Народная Воля» также горячо поздравляет Вас, Владимир Васильевич, с большой датой! До сих пор читатели откликаются на Ваши мемуарные записки, опубликованные во многих номерах в 2014 году.**

**Крепитесь, Владимир Васильевич! Желаем Вам последовать примеру знаменитого белоруса Бориса Кита и отметить в хорошем здравии и 100-летие, и 105-летие…**

ЗДАРЭННЕ

## З-за шалёнай лісы

Хворую лісу выявілі ў вёсцы Фядоры Столінскага раёна. Яе злавілі самі мясцовыя жыхары.

Людзей лісіца не пакусала, але эпідэміёлагі ўсё роўна наклалі на вёску трохмесячны каранцін. Зараз прышчэпкі ад шаленства тут робяць дамашняй жывёле, катам і сабакам. За людзьмі медыкі будуць назіраць тры месяцы.

**Ігар МАРОЗАЎ.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
19 СТУДЗЕНЯ 2016 г.

ШАХМАТЫ

## С юбилеем!



В январе исполнилось 80 лет старейшему белорусскому шахматному композитору, мастеру ФИДЕ и международному арбитру Владимиру Сычову. На диаграмме – задача Владимира Петровича, отмеченная первым призом международного конкурса.

**Белые:** Кра8, Лb5, Са3, Се8, Кс6 (5).

**Черные:** Кра4, Лd1, Са2, Kb2, пп.а5, а6, с2, с4, d3, g6 (10).

Присылайте решения на адрес редакции (220030 г.Минск, ул.Энгельса, 34а) или на электронный адрес: vadim_ne67@mail.ru

## Чемпионаты Европы

Первенства континента по быстрым шахматам и блицу собрали в Минске соответственно около 750 и свыше 600 участников. В первом состязании победил Иван Попов (Россия), лучшие результаты белорусов: 9. Алексей Федоров, 15. Владислав Ковалев, 18. Алексей Александров, 22. Сергей Азаров. В блице первенствовал Рауф Мамедов (Азербайджан), из белорусов лучшими были Сергей Жигалко (12-е место) и Алексей Александров (17-е).

## Путевки в высшую лигу

Они были разыграны в Минске во время первой лиги чемпионата страны. У мужчин среди 75 участников выступали 3 гроссмейстера, 5 международных мастеров и 6 мастеров ФИДЕ. Первое место у Алексея Терзи, право играть в высшей лиге завоевали также Виталий Мерибанов, Александр Кочеев, Дмитрий Кононенко и Никита Горшков. У женщин (23 участницы, в том числе 1 мастер ФИДЕ) победила Ангелина Узловатая, еще три путевки завоевали Екатерина Бейненсон, Рогнеда Федосенко и Кира Зайцева.

## Турнирная хроника

Виктор Купрейчик стал бронзовым призером чемпионата мира среди сеньоров (старше 65 лет). Призовую тройку турнира по быстрым шахматам в минском РЦОПе (59 участников) составили Игорь Люцко, Егор Филипец и Павел Ломако. Призерами турнира в СДЮШОР-11 (92 участника) стали Кирилл Ступак, Валерий Казаковский и Вячеслав Дыдышко, другого – Владислав Ковалев, Егор Филипец и Валерий Казаковский. Звание чемпиона Минска завоевал Сергей Уласевич – 9 очков из 9, Гродненской области – Александр Смирнов, Витебской области – Дмитрий Кононенко. Спартакиаду спортшкол страны выиграла Могилевская СДЮШОР. В Мемориале Т.Загорской в Минске победил Владимир Литвинов. В германском Бад-Висзее (453 участника) Андрей Жигалко финишировал 13-м. В польской Легнице Кирилл Ступак был 4-м, Андрей Ковалев – 7-м. Алексей Александров замкнул первую десятку на Кубке губернатора Югры в Ханты-Мансийске. В Филадельфии (США) Андрей Горовец занял второе место, Владислав Ковалев – шестое. Кирилл Ступак был третьим на турнире в литовском Паневежисе, занял второе место в открытом чемпионате Литвы по быстрым шахматам и первое – по блицу. Андрей Жигалко выиграл турнир в Падуе (Италия), а Никита Майоров был там четвертым из 68 участников. Никита Майоров завоевал «бронзу» в Австрии (103 участника), Владислав Ковалев – в Кракове (106). Сергей Каспаров финишировал девятым в Гронингене (74 участника), Кирилл Ступак показал такой же результат в германском Беблингене (158). На турнире в Аль-Айне (Арабские Эмираты) из 127 участников Сергей Жигалко был 16-м, Сергей Азаров – 17-м.

## Проверьте решения

Задача от 22 декабря решается **1.Ле1.** Первым правильно ответил Игорь Ананич (Гродно).

**Вадим ЖИЛКО.**

ВЕДАЙ НАШЫХ!

## Святлана ЦІМАШЭНКА: «Паход у салон прыгажосці перад спаборніцтвамі – абавязковы рытуал»



*Беларуская самбістка Святлана Цімашэнка стала чэмпіёнкай свету на турніры, які прайшоў у Марока. Гэта самы значны поспех у кар'еры Святланы. Дагэтуль дзяўчына была неаднаразовай прызёркай сусветных чэмпіянатаў і станавілася лепшай на чэмпіянаце Еўропы. Пра тое, як яе "занесла" ў самба, як у 30 гадоў даслужылася да звання капітана МУС, і пра звычайныя дзявочыя радасці Святлана Цімашэнка распавяла "Народнай Волі".*

**– Святлана, першае пытанне напрошваецца само сабой: як вы трапілі ў такі нежаночы від спорту, як самба?**

– Неспадзявана. Было гэта яшчэ ў школьныя гады, калі ў клас прыйшлі трэнеры па самба. Прапанавалі пайсці ў секцыю. Мы з сяброўкамі пераглянуліся і пагадзіліся. Забягаючы наперад, скажу, што ніводная з сяброўак, якія прыйшлі са мной на першую трэніроўку, у спорце не засталася. Хтосьці кінуў заняткі праз месяц, хтосьці – праз паўгода, а я… Я вырашыла застацца.

**– Чым, напэўна, шакіравалі сваіх бацькоў…**

– У лёгкай паніцы была мама: "Света, куды ты ходзіш? Света, навошта табе гэта?" З такіх маміных пытанняў усё пачыналася. А я па натуры чалавек упарты – хаджу сабе ў секцыю і хаджу. Пазней мама змяніла рыторыку: "Ну-ну, пахадзі-пахадзі… Праз паўгода ўсё адно кінеш". Але ў рэшце рэшт мама прыняла мой выбар. А вось бацька падтрымаў мяне адразу. Ён некалі сам займаўся лыжамі і футболам, таму мой спартыўны выбар адобрыў.

**– Што самба дало вам у жыцці?**

– Без перабольшвання, спорт даў мне ўсё. Па-першае, у мяне з'явілася, так бы мовіць, другая мама – мой першы трэнер Галіна Васільеўна Савянкова. Яна ўвяла мяне ў спартыўнае жыццё, яна падказвала, яна выхоўвала. Я буду ўдзячная ёй за гэта ўсё жыццё. Па-другое, спорт мяне моцна дысцыплінаваў, зрабіў мяне асобай. Ведаю, што многія спартсменкі расказваюць, што, маўляў, шкада юнацтва – сяброўкі на дыскатэку ці на спатканне, а ты на зборы ці на трэніроўку. Але я не з тых, хто шкадуе пра гэта. Самба адразу стала часткай майго жыцця – на барцоўскім дыване мне было цікавей, чым на дыскатэках.



**– А па-за дыванам навыкі, атрыманыя на трэніроўках, прымяняць даводзілася?**

– Гэта, можа, і няправільна, але было… Прыйшлося адахвочваць надакучлівага кавалера. Ладна б надакучлівага, дык ён да таго ж быў не вельмі адэкватны. Спачатку я папярэдзіла: сыдзі, лепей будзе ўсім. Ён не зразумеў. Тады я зрабіла яму падсечку. Чыста прафесійна, як на трэніроўцы. Ён падняўся і нешта спрабаваў яшчэ мне зрабіць… Тады прыйшлося кінуць яго праз спіну. Тут, як кажуць, без варыянтаў. Чалавек устаў з зямлі і моўчкі пайшоў. Больш мы з ім не бачыліся…

**– Сурова… А свайму будучаму мужу вы адразу сказалі, што прафесійна займаецеся самба?**

– Так, я не рабіла з гэтага сакрэту. Ці было яму страшна ад тых ведаў? Цяжка сказаць, прынамсі дагэтуль ён мне ў сваім страху не прызнаўся *(смяецца)*. Знаёмства было простым: ён падышоў да мяне на вуліцы, завязалася размова. Да спорту Аляксандр ніякага дачынення не мае. Але прывабіў тым, што ў яго ёсць галоўная мужчынская рыса – надзейнасць. Сталі сустракацца. Ажаніліся. Зараз гадуем сына Уладзіслава. Яму пяць гадоў, і я нізашто не аддам яго ў самба, няхай лепш плаваннем займаецца, бо два самбісты ў адной сям'і – гэта зашмат.

**– Ведаю, што акрамя спартыўнай адукацыі ў вас ёсць яшчэ і юрыдычная. Пасля завяршэння кар'еры плануеце працаваць юрыстам?**

– Пакуль пра гэта не думаю, але сваё жыццё хачу звязаць са службай ва ўнутраных войсках. Пасля вучылішча алімпійскага рэзерву я паступіла ў Акадэмію МУС – хацелася атрымаць "цывільную" адукацыю. Выбрала спецыяльнасць "юрыдычная псіхалогія", паралельна ўвайшла ў спартыўную каманду ўнутраных войскаў, дзе выступаю і зараз. У мяне нават міліцэйскае званне ёсць – капітан. Зараз вось чакаю чарговага павышэння – атрымаць маёрскія пагоны ў 31 год, пагадзіцеся, гэта ж сапраўды класна!

**– Карацей, вы гатовы змяніць барцоўскі дыван на пагоні за злачынцамі?**

– А чаму б не? Якія-ніякія прыёмы ведаю *(смяецца)*.

**– Сціпла для чэмпіёнкі свету. Дарэчы, Святлана, залаты медаль чэмпіянату свету – гэта найвышэйшае дасягненне ў вашай кар'еры?**

– Безумоўна! У мяне была мэта – паехаць на гэты чэмпіянат. Але напярэдадні спаборніцтваў я сур'ёзна траўміравалася. Урачы настойвалі, каб паберагла сябе, але я прыступіла да трэніровак нават раней, чым мне было дазволена. У прынцыпе, рада, што так атрымалася. Гэты залаты медаль самы дарагі для мяне.

**– Прэміяльныя за перамогу на чэмпіянаце свету ўнушальныя?**

– Як сказаць… Самба – не алімпійскі від спорту. Гэта раз. Самбісты не могуць пахваліцца даходамі, як, напрыклад, у хакеістаў ці тэнісістаў. Гэта два. Так, пасля перамогі было фінансавае заахвочванне ад Мінспорту, за што вялікі дзякуй, але асноўныя даходы ў мяне складаюцца з таго, што я знаходжуся ў структуры МУС.

**– Святлана, а якая вы па-за барцоўскім дыванам? Ці ўласцівы вам жаночыя слабасці кшталту шопінгу ці наведвання салонаў прыгажосці?**

– А як жа, я ж жанчына! Паход у салон прыгажосці на манікюр-педыкюр – гэта абавязковы рытуал, тым больш перад спаборніцтвамі. Да таго ж вельмі люблю шопінг, асабліва ў замежных паездках. У адзенні аддаю перавагу класічным сукенкам. Карацей, дзяўчына як дзяўчына, толькі з характарам…

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

ЧУЛІ?

## У Бярозе і Рэчыцы футбола не будзе

Да пачатку чэмпіянату Беларусі па футболе 2016 года застаецца літаральна некалькі месяцаў. Але некаторыя клубы ўжо гатовы выкінуць «белы сцяг». На афіцыйным сайце клуба «Бяроза-2010» з'явілася сумная інфармацыя: *«Няма ніякай упэўненасці, што каманда зможа працягнуць выступленне ў першай лізе, зрэшты, як і заявіцца ў другую»*. Перад гэтым клуб завяршыў супрацоўніцтва з галоўным трэнерам, у мінулым вядомым спартсменам **Андрэем Лаўрыкам,** а таксама з футбалістамі каманды. Прычына ў адсутнасці грошай. Кампанія "Трайпл" спыніла фінансаванне клуба.

Амаль адначасова пачаўся працэс ліквідацыі клуба "Рэчыца-2014", які паводле вынікаў мінулага сезона вылецеў у другую лігу. Як сцвярджае журналіст **Яўген Табула**, які некалькі гадоў супрацоўнічаў з камандай, у ёй таксама існуюць фінансавыя цяжкасці: *"Усім футбалістам, трэнерам і астатняму персаналу вінаватыя зарплату за год"*.

**Максім ПЛОТНІКАЎ.**

ПРЭМ'ЕРА!

## Вайна ва Украіне – на мінскай сцэне

6 лютага ў Беларускім маладзёжным тэатры адбудзецца прэм'ера спектакля "Саша, вынесі смецце". Аўтар аднайменнай п'есы – сучасны ўкраінскі драматург **Наталля Варажбіт**. Згодна з сюжэтам, Каця і яе цяжарная дачка Аксана рыхтуюцца памінаць Сашу – свайго мужа і бацьку. Ён быў афіцэрам украінскай арміі, аднак памёр не на вайне, а дома ад сардэчнай недастатковасці. Жанчыны размаўляюць з ім, як з жывым, а Саша адказвае ім з таго свету. Але ў верасні 2014 года, калі паўстанцы з ДНР і ЛНР пры дапамозе Расіі дасягнулі ваенных поспехаў, Саша заяўляе, што хоча вярнуцца ў гэты свет і ваяваць, бо прысягаў народу Украіны. Яго жонка і дачка супраць…

Пастаноўку ажыццявіў драматург і акцёр Маладзёжнага тэатра **Дзмітрый Багаслаўскі**.

**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ.**

Шчыра спачуваем журналісту і талакоўцу Алесю Сушу з прычыны смерці маці **Клаўдзіі Міхайлаўны.**

**Сябры.**

СКАНДАЛ

# Подлая охота на Левченко




*Всю минувшую неделю баскетбольное сообщество планеты обсуждало инцидент в женском чемпионате Китая. Там представительницы команды «Шанхай» устроили целенаправленную охоту на Елену Левченко – белорусскую центровую, выступающую в рядах конкурентов из «Гуандуна». Легионерку несколько матчей кряду (с разницей в несколько суток) прямо на площадке избивали так, что на лице 32-летней уроженки Гомеля не осталось живого места.*

**– С чего все началось?**

– Знаете, каких-то конкретных предпосылок к агрессии не просматривалось. Да, в китайском первенстве всегда играют грязно – то по рукам бьют, то локтями всю спину превращают в сплошной синяк, то царапают так, что кровь потом лишь с помощью докторов останавливаешь. Но поиграв здесь несколько сезонов, к подобным вещам привыкаешь: слабый уровень доморощенных спортсменок и очень низкая квалификация судей способствуют грязи на площадке. Главное – не терять концентрацию и не срываться, когда терпение лопается и хочется постоять за себя. Вроде как выдержку за несколько сезонов выступлений в WCBA натренировала, перестала бурно реагировать. Но то, что произошло пару дней назад, уже ни в какие ворота не лезет.

**– Эти кадры уже облетели весь мир…**

– Мы играли матч регулярного чемпионата с «Шанхаем». Здесь первенство построено таким образом, что с одним и тем же соперником ты встречаешься чуть ли не десяток раз. Так что мы изрядно друг другу надоели. Может, это, или то, что мы «Шанхай» никогда так просто не отпускали, или мои неплохие действия в том поединке соперниц из равновесия вывели. Но незадолго до конца матча в безобидной ситуации под кольцом центровая конкуренток просто наотмашь ударила меня по лицу. Знаете, было бы еще полбеды, окажись на месте нарушительницы местная баскетболистка низкой квалификации. Но била-то меня такая же легионерка: центровая сборной Австралии Лиз Кэмбедж, с которой встречались до этого и в женской НБА, и на чемпионатах мира, и в товарищеских поединках.

**– Била намеренно?**

– Да, и это шокировало больше всего. Матч близился к концу, соперник рисковал проиграть – и, видимо, таким способом решил одним махом решить все проблемы. Ведь меня после этого увели в раздевалку, чтобы остановить кровь, а затем отправили в больницу, где наложили с десяток швов. «Гуандун» же без центровой ничего двухметровой Кэмбедж противопоставить не смог, и проиграл два очка.

**– Австралийка извинилась?**

– Какое там – ни она, ни баскетболистки «Шанхая», ни их менеджер к нам даже не подошли! Более того, Лиз оставили в игре, выписав персональное замечание, хотя по всем правилам баскетбола такой фол автоматически влечет за собой выдворение с паркета. Она бы и без дисквалификации обошлась. Но местная пресса подняла шумиху, плюс наш клуб написал официальное письмо в федерацию – и Кэмбедж на одну игру от «регулярки» все же отстранили.

**– Однако история с охотой на вас, как понимаю, на этом не закончилась…**

– К сожалению, это были только цветочки. Здешний календарь игр настолько странен, что следующий матч мы вновь должны были провести против «Шанхая». К тому моменту меня выписали из больницы, обколов обезболивающими. От них, к сожалению, побочный эффект был такой ужасный, что сутки не могла прийти в норму. Однако на матч меня заявили: руководство посчитало, мол, если могу стоять на ногах и ловить мяч, значит, способна играть. Здесь это нормальная практика: в команде разрешается иметь лишь одного легионера, это самые высокооплачиваемые игроки, и гоняют их до изнеможения, чтобы отбить каждую копейку.

**– Словом, выбора у вас не было?**

– Да, вышла я через «не могу» на матч: лицо распухло, левый глаз видит с трудом, швы болят. И тут уже в самом начале игры получаю по новой! Слава богу, что соперница зарядила по другой стороне лица – попади она в свежие раны, точно с вами сейчас не разговаривала бы. Опять же бьют сильно, намеренно и целенаправленно – пусть это была не Кэмбедж, а ее китайская подруга по команде. Арбитры, правда, сразу свистнули, показали дисквалифицирующий фол, но мне от этого точно легче не стало.

**– На записи видно, что от расправы над хулиганкой вас удержали только подруги по команде…**

– В тот момент думала, что разорву ее к чертовой матери! Представьте: только вернулась из больницы, еле-еле держусь на ногах после всей этой хирургии, чуть с ума не сошла от уколов – и опять все по новой. К тому же взбесило осознание умышленности фола. После первого инцидента мне написали многие девчонки, с кем играла в женской НБА, – в том числе и те, кто выступал в Китае. Так вот, они рассказывали, что «Шанхай» уже практиковал такие методы выведения соперниц из строя.

**– И сейчас, похоже, снова взялся за свое…**

– Даже в местной прессе, как перевели друзья, это всерьез обсуждается. Честно сказать, я в эти заговоры верить не хотела бы. Но, видя то, как вела себя скамейка соперниц, как отнеслись к произошедшему после рецидива их тренеры, призадумаешься. Чтобы вы понимали: перед повторным матчем проводили в зале «Шанхая» бросковую тренировку. Так вот, никто из тамошних представителей – ни игроки, ни менеджеры, ни обслуживающий персонал – не подошли к нам извиниться, как-то сгладить ситуацию. Ничего не произошло, все нормально, продолжаем жить, как будто ничего не было.

**– Не боитесь, что в следующий раз не сдержитесь и зарядите обидчице по лицу в ответ?**

– Искренне надеюсь, что следующего раза не будет. Хотя, если глянуть на решения дисциплинарной комиссии, вынесенные по моему делу буквально за пару часов до нашего разговора, сомневаюсь, что насилию в WCBA положен конец. День местные функционеры потратили на то, чтобы изучить видеозаписи, отчеты судей и протесты со стороны нашего клуба, после чего решили так строго наказать «Шанхай», что мне аж смешно стало. Кэмбедж дали одну игру дисквалификации, которую она и так уже отсидела, китайскую центровую отстранили от игр на пять матчей, а сам клуб оштрафовали на сумму, эквивалентную 500 долларам. Как понимаете, такие наказания никого от подобных маневров не остановят.

**– Знаете, что ваша история не прошла мимо СМИ в СНГ?**

– Да, и за это спасибо белорусскому журналисту Дмитрию Герчикову. Если бы не он, на родине наверняка даже никто не узнал бы о моих «приключениях». Однако заметка, которую Дима опубликовал на одном из порталов, вызвала резонанс. Знаю, что белорусская федерация баскетбола направила письма в ФИБА и китайским коллегам с требованием жестко отреагировать на инциденты, пообещав и в дальнейшем защищать интересы игроков национальной сборной. Опять же медийный интерес проявился: вы обратились, из Беларуси пошли просьбы ситуацию прокомментировать. Я изначально сама ничего не говорила и нигде ничего не выкладывала, чтобы люди не думали: мол, сама выбирала, где играть, ехала в другой мир, а теперь жалуется. Но, уверена, жестокости в женском баскетболе не место. А потому охотно иду на контакт с прессой, чтобы предотвратить подобные случаи в будущем. Ну и, наверное, чтобы коллеги не думали, что в Китае зарабатываются легкие деньги. К здешней ментальности и культуре приспособиться очень сложно. Я играю в WCBA уже несколько лет – и все равно некоторые вещи по-прежнему ставят в тупик. Речь не только о баскетболе. Скажем, когда защищала цвета «Ляонина», чувствовала себя как на военных сборах – гостиница, где жили командой, походила на казарму. Маленькая комната без плиты, холодильника – доходило до того, что скоропортящиеся продукты хранила за окном. В плане личных свобод порой сталкивалась с тотальным контролем: даже в выходной не выпускали в город купить предметы первой необходимости, поскольку тренер считал, что в день отдыха все должны находиться дома и лежать на кровати, попусту не расходуя энергию.

**– После всего, с чем столкнулись в Поднебесной, жалеете о проведенных там трех годах жизни?**

– Нет, это опыт. Опыт уникальный и ни с чем не сравнимый. Он сделал меня сильнее, терпеливее, тверже. Всегда работала по принципу: «Каждую секунду в мире кто-то где-то становится лучше, чем я». Так вот, жизнь в Китае ни на мгновение не позволяла расслабиться, дать себе поблажку, постоянно держала в тонусе. И благодаря этому я определенно становилась лучше и как спортсменка, и как человек.

**Лев САВАРИ.**

lenta.ru

РАКУРС

## Арабскі хіт з беларускай мелодыкай



Даўно вядома, што Беларусь стала здымачнай пляцоўкай для многіх расійскіх фільмаў і серыялаў, але ў мінулым годзе да нас зачасцілі арабскія здымачныя групы.

Музычныя кліпы арабскіх зорак шоу-бізнесу, знятыя на беларускай "натуры", усё часцей можна ўбачыць на тэлеканалах краін Бліжняга Усходу. Літаральна днямі на іракскіх тэлеканалах адбылася прэм'ера кліпа спевака Ватэка Насры, знятага ў Гродне.

Прыгажуня-бландзінка, чарнабровы і салодкагалосы спявак, гродзенскі тралейбус, арка закаханых у Парку Жылібера… Няцяжка зразумець, што песня – пра каханне.

У бліжэйшы час арабскія тэлеканалы абяцаюць прадставіць яшчэ некалькі кліпаў "беларускай серыі". І, па праўдзе сказаць, у кліпах Беларусь такая прыгожая!

**Ірына МАЛЬЦАВА.**

ПРЕПАРАТЫ ДЛЯ МУЖЧИН
«КАСТОКРИН»
экстракт бобровой струи




• г.Минск, ул.Козлова, 3а, Дворец искусства, 2-й этаж, магазин «Натуральные препараты. Фито- и биокосметика». Тел. 8 (017) 284-91-96. Пн.-Сб. с 11.00 до 18.00, Вск. с 11.00 до 16.00.
• г.Минск, ул.Козлова, 8, магазин «Мир здоровья». Тел. 8 (017) 285-35-17. МТС: 8 (029) 774-46-16, Life: 8 (025) 609-40-13, Vel: 8 (029) 603-11-10.
Производитель ООО «Доктор Корнилов», Россия, Алтайский край, г.Барнаул, ул.Аносова, дом 3.
Противопоказания: индивидуальная непереносимость входящих в состав компонентов.
Объект рекламирования является биологически активной добавкой к пище.
Необходимо ознакомиться с рекомендациями по применению биологически активной добавки к пище.
*Серт. ЕврАзЭС RU 77.01.34/001. Е 002.909 от 21.03.2013. Д.соответствия №РОС RU/АИ 32 Д. 01750 от 21.06.2013. Информация носит рекламный характер.*
ИП Понтелеев К.М. УНП 192452271

Адрас рэдакцыі:
220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 3286871.
Тэл. рэкламнага аддзела:
(017) 3286609
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

9 772071 964000 16005

Падпісныя індэксы: 63222 – для індывідуальных падпісчыкаў, 632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ

У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 18.01.2016 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 25508 экз. Заказ № 125.